

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

**Address:** P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

**BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.** Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

**№ 473 Чэрвень 2002 г.** Год выданьня 52

# ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў НЬЮ ЁРКУ

4-га траўня на Першай Авэню нью ёрскі аддзел БАЗА правёў дэманстрацыю пратэсту супраць палітыкі рэжыму Лукашэнкі, скіраванай на вынішчэньне культуры й мовы беларускага народу і на ігнараваньне патрэбаў людзей, што апынуліся ў зоне чарнобыльскай радыяцыі. Старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка адзначыў, што беларусы Амэрыкі салідарныя са змаганьнем нацыянальных дэмакратычных сілаў на Бацькаўшчыне за свабодную й сапраўды незалежную Беларусь, за спыненьне этнацыду і забесьпячэньне нармальнага нацыянальна-культурнага разьвіцьця, за годныя эканамічныя і сацыяльныя ўмовы жыцьця для людзей. Усяму гэтаму перашкаджае дэмагагічны рэпрэсыўны рэжым, што карыстаецца неабмежаванай падтрымкай Расеі, і дзеля гэтага барацьба супраць рэжыму і ягоных маскоўскіх паганятых ёсьць барацьбой ня толькі за незалежнасьсьць, мову ды культуру, але й за фізычнае выжываньне нацыі.




Сп. Зянон Пазьняк у свім выступе адзначыў, што праз 16 гадоў пасьля Чарнобыльскай аварыі асабліва выразна бачнае стаўленьне рэжыму Лукашэнкі да беларускага народу, калі праз масавыя сродкі на ўсю краіну ідуць заявы пра тое, што быццам ніякай небясьпекі ў пацярпелых ад Чарнобылю раёнах ужо няма, і там можна бяз шкоды для здароўя жыць і вырабляць сельскагаспадарчыя прадукты. Рэжыму напляваць на людзей, іхнае здароўе і дабрабыт. Фактычна ідзе эксплюатацыя цэлай краіны для патрэбаў малой купкі прайдзісьветаў, што на сьлязах і пакутах людзей залатвяюць свае пэрсанальныя, "шкурныя" патрэбы. І каб людзі не змаглі ачуняць, выйсьці з трансу, зразумець, што яны ёсьць народам, гаспадарамі, а ня служкамі - рэжым нішчыць культуру гэтага народу, выкараняе беларускую мову, імкнецца ўбіць у галовы, што зьнявага ўсяго свайго і ўсхваленьне чужога, расейскага - гэта добра.

Разбурэньні Чарнобыля радыяцыйнага ідуць поруч з разбурэньнямі, што нясе Чарнобыль духовы. І таму мы мусім змагацца з гэтымі разбурэньнямі й з рэжымам, які адказны за гэтыя разбурэньні, каб нашыя людзі здолелі збудаваць для сабе вольнае, заможнае, шчасьлівае жыцьцё.

Удзельнікі дэманстрацыі з плякатамі й нацыянальнымі беларускімі сьцягамі ў руках скандавалі лёзунгі: "Беларусь-так! Лукашэнка-не!", "Жыве вольная незалежная Беларусь!", "Далоў расейскі імпэрыялізм", сьпявалі беларускія патрыятычныя песьні, раздавалі мінакам улёткі пра мэты дэманстрацыі. Быў прыняты зварот да амэрыканскіх уладаў.

***Віталь Зайка***

# З А Я В А

## ПРА ПАГРОМ БЕЛАРУСКІХ ЛІТАРАТУРНЫХ ЧАСАПІСАЎ УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Нядаўняя пастанова ўраду Беларусі аб стварэньні голдынгу, у руках якога будуць фінансы на выдаваньне літаратурных пэрыёдыкаў і прызначэньне на пасаду галоўных рэдактароў літаратурных часапісаў асобаў, гатовых выконваць урадавы кантроль - гэта яшчэ адзін крок у наступе на беларускую нацыянальную культуру. Рэакцыйная расейшчына, якую культывуе ўрад Беларусі, дабіраецца цяпер да нацыятворчага й дзяржаватворчага ядра, каб павярнуць у адваротны бок працэс станаўленьня беларускае нацыянальнае дзяржаўнасьці.

Беларуская літаратура, нават ва ўмовах адноснай несвабоды, заўсёды ўплывала на фармаваньне й пашырэньне ідэі аб жыцьцёвасьці беларускай нацыі, ейнай апрычонасьці ды гістарычным шляху да рэалізацыі ідэалу свабоды й незалежнасьці. У гэтым працэсе родная літаратура была й застаецца носьбітам нацыянальнай тоеснасьці (ідэнтытэту), выказьнікам запаветных жаданьняў народу ды сродкам абароны ягоных інтарэсаў. Цяперашні наступ на літаратуру праз урадавы кантроль літаратурных друкаваных органаў - гэта наступ на беларускасьць, на вынікі працы папярэдніх пакаленьняў патрыётаў Бацькаўшчыны, гэта далейшы этап у разгроме пісьменьніцкай арганізацыі.

Мы асуджаем гэты крок лукашызму як чарговае злачынства супраць беларускага народу. Адначасна мы заклікаем усіх прыхільнікаў справы нацыянальнага адраджэньня Беларусі як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў дыяспары падтрымваць беларускіх пісьменьнікаў усякімі магчымымі спосабамі ў іхнай абароне сваіх правоў ды магчымасьцяў нармальнай творчай працы. Няхай сёлетняе 120-годзьдзе нарадзінаў волатаў літаратуры Янкі Купалы й Якуба Коласа станецца годам узмацненьня нашай агульнай адданасьці справе далейшага разьвіцьця ў свабодных умовах літаратуры як выказьніка волялюбных імкненьняў Беларускага Народу. Жыве Беларусь!

***Вітаўт Кіпель,***
***старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва***
***Янка Запруднік,***
***сябра Прэзыдыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі***
***Аляксандар Сільвановіч,***
***Сустаршыня Кааліцыі ў Абарону Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі***
***Антон Шукелойць,***
***Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня***

# ПРА ДАМЕЙКУ НІ СЛОВА

Нейкі час назад шмат гаварылі пра колішняга чылійскага дыктатара Піначэта, які вярнуўся зь Вялікай Брытаніі, дзе на працягу пару гадоў лячыўся, а пасьля адмахваўся ад розных камуністычных дзеячоў, што намагаліся яго зацягнуць у Гішпанію, каб адказваў за колішнія злачынствы падчас свае дыктатуры ў Чылі. У сваёй краіне цяпер яго таксама могуць пацягнуць за колішнія зьдзекі над апазыцыяй, інсьпіраванай камуністамі - пераважна на загад цэнтру, з Масквы. Чылійскі суд пазбавіў Піначэта імунітэту ад іску "пакрыўджаных".



***Пісьменьнік Кастусь Акула ля свайго дому ў Таронта.***

У 60-х гадоў мінулага стагодзьдзя, асабліва пасьля перамогі Фідэля Кастро на "востраве Свабоды", у разгары г. зв. "халоднае вайны", хвалі, інсьпіраваныя з маскоўскага цэнтру, хлынулі на розныя дзяржавы Паўднёвай Амэрыкі. У Чылі зьявіўся ў выбарах на чале дзяржавы прэзыдэнт Альендэ, што пры помачы розных "дзялкоў" з "дзяржаваў сацыялістычнай садружнасьці" ўзяўся на савецкі лад перабудоўваць дзяржаву. На помач яму Масква выслала і ведамага нам зь Пількаўшчыны Максіма Скурко-Танка. У 1967-71 гадох ведамы паэт і шмат маскалямі ўдэкараваны камуніст быў старшынём Вярхоўнага Савету БССР. Галава "сувэрэннай" бэсэсэрыі ў сваім "дзёньніку" ("Полымя", Мн. нр. 3, 1997 г.) дзеліцца ўспамінамі з падарожжа на помач прэзыдэнту Альенду:

"1971. 16.VII. Быў на пленуме ЦК КПБ. Мо заўтра пад'еду ў Пількаўшчыну. Схаджу пакланіцца старым і сьвежым магілам.

29. VIII. Гасьцініца "Масква". У фае сустрэў членаў нашай парламенцкай дэлегацыі, якая ляціць у Чылі. Зноў узмацнілася мая арытмія. Добра, што з намі ляціць кіеўскі доктар Д. Д. Драздоў."

*Працяг на бач. 7*

# ГНУСЯ, АЛЕ ДА ПАРЫ

Беларускага жыцьця ў Амэрыцы значна больш, чым на Бацькаўшчыне. Да такой горкай высновы прыйшоў, калі прачытаў апошні выпуск "Беларуса". Дзякуй Богу, газэта адраджаецца і дае падставы меркаваць, што будзе зь цягам часу станавіцца ўсе лепей і лепей, збіраючы на сваіх старонках і вакол сябе людзей, якія думаюць па-беларуску. А горка і сумна ад таго, што адбываецца зь беларускімі літаратурнымі часапісамі й газэтамі ў Менску. Іх душаць фінансава і арганізацыйна. Вялікія цяжкасьці ў газэты "Наша Слова". Аб гэтым напісаў мне зь Менску яе галоўны рэдактар пісьменьнік Эрнэст Ялугін. І амаль усе допісы, што прыходзяць зь Беларусі ад маіх сяброў - пісьменьнікаў і журналістаў, заканчваюцца рытарычным пытаньнем: як цяпер жыць?

Усе, хто думае па-беларуску і ня хоча быць халуем рэжыму, практычна ня мае права на працу. А ў людзей ёсць дзеці, якіх патрэбна гадаваць... Мара аб тым, што "вечна мы будзем вольныя людзі жыць на шчаслівай і вольнай зямлі", аказалася толькі марай. Марнай.

Так склалася жыцьцё, што з маленства мне пасчасьціла расьці ў пісьменьніцка-журналісцкім атачэньні, бачыць і размаўляць зь Якубам Коласам, Аркадзем Куляшовым, Міхасем Лыньковым, вучыцца беларускай мовы ў паэта і настаўніка Станіслава Шушкевіча - бацькі першага Старшыні Вярхоўнага Савету незалежнай Беларусі Станіслава Шушкевіча, зь якім мы разам навучаліся ў 13-й менскай школе. Гэта былі людзі неардынарныя - сапраўдныя беларускія інтэлігенты. Зараз такіх ў Беларусі няма і ня хутка зьявяцца. Рэшткі беларускае інтэлігенцыі неяк боўтаюцца ў брудных хвалях калгаснага бальшавізму і нешта робяць, каб ня быць мярзотнымі самым сабе, падстаўляючы плечы пад лукашэнкаўскія дубіны. Затое тут, на эміграцыі, ёсьць яшчэ нязьніклая душа народу, якая выдае беларускія кнігі, выпускае зь вялікімі цяжкасьцямі газэту "Беларус". Беларусь павінна быць удзячная Вітаўту Кіпелю, яго памочніку Лявону Юрэвічу, Янку Запрудніку за тое, што беларускую мову й культуру захавалі яны для нашчадкаў. А маладая француженка Аляксандра Гужон дасьледуе сёньняшнюю гісторыю Беларусі грунтоўна і з захапленьнем. Гэта-ж шчасьце вялікае ведаць, што есць такія людзі. Бяда Беларусі у тым, што яе мову і культуру душылі й знішчалі ўсе, каму яна карцела - ад польскіх каралеў, расейскіх цароў да бальшавікоў і калгаснага "прэзыдэнта". Пры бальшавіках гэта рабілася найбольш цынічна. Далі падрасьці беларускай інтэлігенцыі, а потым зрэзалі як літаўкай-касой пад корань, пакінуўшы на развод колькі верных вырошчвальнікаў "мясцовай культуры" - "нацыянальнай па форме, сацыялістычнай па зьместу". А пры лукашызму як абышліся з Саюзам пісьменьнікаў? Прынялі ў яго аж 500 чалавек - чыноўнікаў, былых партыйных і камсамольскіх функцыянераў - размылі асноўны носьбіт нацыянальнае культуры паслухмяначыноўным брудам. Зь 500 сяброў Саюзу пісьменнікаў 300 паэтаў. Ці сапрауды ёсць такая колькасць творцаў? Як пісаў бацька Колас у "Новай зямлі", "сядзяць пісцы, як гною кучкі". Не, гэта ваколлітаратурнае сьмецьце. Затое сапраўдныя пісьменьнікі дзе? Васіль Быкаў ў Нямеччыне, Сьвятлана Алексіевіч у Італіі, Уладзімер Някляеў у Фінляндыі, Міхась Шульман і Марат Баскін у Нью-Ёрку. Колькі носьбітаў роднае мовы разьбегліся ад Лукашэнкі як ад чумы! Зараз загадваць літаратурным працэсам будзе апантаная Ніна Чайка - славутая тым, што Беларускае радыё зрабіла рупарам шызоіднага лукашызму.

Цяжка й брыдка пра ўсе гэта думаць. Кепска на душы. І ўсеж ёсць надзея, што кольвечы будзе пачутая і спраўдзіцца слова песьняра:

*Я мужык, а гонар маю,*
*гнуся, але да пары.*
*Я маўчу, маўчу, трываю,*
*але скора загукаю:*
*стрэльбу, хлопчыкі, бяры!*

Для гэтага трэба, каб народ наш адчуў у душы сваёй беларускасьць. Патрэбен час.

Давайце часцей думаць пра нашу Радзіму. Дзяліцца думкамі аб ёй. Вось выходзіць на чужыне нашая газэта - танюсенькая, але дарагая сэрцу. Гэта вам ня "Новое русское слово", у якім няма нічога новага, няма і слова шчырага, бо гэтае выданьне друкуе размовы з Лукашэнкам і зь яго амбасадарам Лінгам, яна, наколькі мне вядома, заўжды працавала пад кантролем маскоўскіх чэкістаў.

"Беларус" - гэта нашае выданьне. Давайце зь ім сябраваць! Ня толькі чытаць, але і супрацоўнічаць.

***Уладзімер Левін***

# НАРОДНАЕ АДЗЕНЬНЕ - АДУКАЦЫЙНЫ СРОДАК

Доктар мэдыцыны Ірына Грышкевіч прыехала зь сям'ёю ў Злучаныя Штаты няпоўныя два гады таму. Спадарства Грышкевічаў пасялілася ў горадзе Эдысане, штат Нью-Джэрзі. З мужам Янкам і дзьвюмя дочкамі школьнага веку адразу-ж энэргічна ўзяліся наладжваць быт у новай краіне, не забываючыся аднак пра сваю родную Беларусь.

Др. Ірына інтэнсыўна вывучае ангельскую мову, спадзяецца з часам выкарыстаць свае веды у мэдыцыне. Яна наведвае Мідлсэкскі Каледж, дзе вучацца студэнты з розных краінаў сьвету. З мэтай узаемнага азнаямленьня ейная кляса пастанавіла правесьці паказ нацыянальнага адзеньня. У групе апрача беларускі Ірыны аказаліся студэнткі з Карэі, Індыі й Дамініканскай Рэспублікі. Кожная зь іх прыйшла ў дамоўлены дзень на занятак у сваёй нацыянальнай вопратцы. Кожная расказала пра сваю краіну й народнае адзеньне. Як выявілася, беларускі строй найбольш працаёмкі сваёй вышыўкай, бо іншыя шытыя з гатовай тканіны. Затое, прынамсі, для Ірыны Грышкевіч ён і найпрыгажэйшы.

***(Я.З.)***

***На здымку: Ірына Грышкевіч у беларускім строі.***

# УШАНАВАЛІ ПЕРШАГА ЯРАРХА БАПЦ



85-я ўгодкі народжаньня архіяпіскапа Мікалая сьвяткавалі ў Таронце сёлета 26-га траўня. Сьвятую Літургію правіў а. Вячаслаў. Закончылі яе сьпевам архіяпіскапу Мікалаю "Многія лета".

У прыгожа ўдэкараванай царкоўнай залі зьмясьціласа звыш паўсотні прысутных сяброў парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага й гасьцей.

Уладыка Мікалай благаславіў харчы й прысутных малітваю. Ад арганізацыяў і асобаў наплыло шмат пажаданьняў. Старшыня таронцкага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады Дробіна Надзея запрашала прысутных выказацца. У згадках, што аднаўлялі больш паўстагодзьдзя, прысутныя з удзячнасьцю і любоў'ю чулі пра выдатнага, працавітага, надзвычай любячага родны Моталь, Палесьсе і ўсю бацькаўшчыну Беларусь, адданага служэньню Госпаду Богу й "сьвятой Беларусі" архіяпіскапа Мікалая. Згадкі перапляталіся і гумарыстычнымі пажаданьнямі, як прыкладам пра той стодаляровы банкнот, які, быццам, выдаў канадыйскі фэдэральны ўрад з выяваю на ім Уладыкі Мікалая. Не забыліся і пра баброў, якія некалі былі зрабілі інвазію ў адпачынкавым пасёлку Слуцаку, ды як Уладыка Мікалай іх абхітрыў, асушыўшы іхны аграмадны басэйн у нашай "слуцкай пушчы", што кілямэтраў каля двухсот на поўнач ад Таронта.

Самадзейная група сьпевакоў з моладзі, арганізаваных Кавалёвай Вітай і Шаўчэнка Валентынай, прасьпявала Уладыку Мікалаю "Мотальскае вясельле". Ён-жа з Моталя, што ля Янава на Берасьцейшчыне. Былі й падарункі. І зноў "Многае лета" ад ўсяе грамады. І падзякі нашаму выдатнаму Архіпастыру за лідэрства, натхненьне, ахвярнасьць, вытрывалась, дабрачыннасьць, любоў.

Асобная падзяка належыцца пераважна нашым руплівым жанчынам за падрыхтоўку, ня толькі кухонную, гэтага выдатнага сьвята.

***К. Акула.***

# "БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА" Ў КАНАДЗЕ

У канцы траўня выйшаў з друку чарговы другі нумар квартальнае газэты Згуртаваньня Беларусаў Канады "Беларускае Слова". Калі першы нумар меў фармат бюлетэню на 12-ці бачынках, дык другі ўжо набыў выгляд поўнафарматнае газэты на 12 бачын.

Пасьля прачытаньня першага нумару, відаць, шмат у каго склалася ўражаньне ў перарванасьці традыцыяў старэйшага пакаленьня беларусаў Канады і новых маладых эмігрантаў. На гэта адразу адгукнуліся вэтэраны беларускага руху ў Канадзе Д-р Раіса Жук-Грышкевіч і пісьменьнік Кастусь Акула. У сваіх артыкулах яны зьвяртаюць увагу, што гісторыя беларускіх арганізацыяў і беларускага друкаванага слова ў Канадзе маюць даўнія і багатыя традыцыі.

У газэце зьмешчаныя артыкулы й зацемкі пра сьвяткаваньне Новага году і Калядаў у Таронта, выступ гакэйнае зборнае Беларусі на зімовых Алімпійскіх гульнях.

Падрабязна асьвятляецца прабег сьвяткаваньняў 84-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ў Таронта, Монтрэалі й Атаве, а таксама надрукаваны гістарычны артыкул Вольгі Яноўскай пра падзеі напярэдадні, падчас і пасьля абвешчаньня незалежнасьці БНР.

Газэта надрукавала адказ Міністэрства Замежных справаў Канады на адкрыты ліст, ухвалены 38-м Зьездам ЗБК.

Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады Д-р Пётр Мурзёнак піша пра цяжкасьці й праблемы ЗБК, пра мэты, якіх прытрымліваецца кіраўніцтва арганізацыі ў сваёй дзейнасьці.

Рэдакцыя "Беларускага Слова" выказваецца ў падтрымку пастановаў канфэрэнцыі "Праблемы нармалізацыі клясычнага беларускага правапісу", якая адбылася ў Празе 5-6-га сьнежня 1998-га году. Вядома, што пастановы канфэрэнцыі ў некаторых выпадках розьняцца ад правілаў, якіх прытрымліваліся беларускія выданьні замежжа да гэтага. Патрэба хучэйшай уніфікацыі тарашкевіцы відавочная, што падказвае і рэдакцыі "Беларуса" абмеркаваць гэтае пытаньне. Цікава было-б давецацца думку чатачоў "Беларуса" адносна пастановаў канфэрэнцыі ў Празе?

8-ю бачыну газэты займае расклад Багаслужбаў у царкве Сьв. К. Тураўскага БАПЦ ў Таронта, царкоўныя аб'явы й артыкул а. Вячаслава "Вялікі Пост".

Тры з паловаю бачыны займае літаратурна-мастацкі альманах "Шкварка", дзе знайшлі месца апавяданьні, гумарэска, урывак зь дзёньніка, мэмуары.

У "Анталёгіі эмігранцкай літаратуры распавядаецца пра Міхася Кавыля.

Новае канадыйскае выданьне ўжо заваявала сымпатыі, аб чым сьведчыць ахвярнасьць яго чытачоў. Хочацца пажадаць рэдакцыі далейшых посьпехаў.

Зацікаўленыя атрымліваць "Беларускае Слова" пішыце на адрас:

***BIELARUSKAJE SLOVA***
***524 St. Clarens Ave***
***Toronto, ON M6H 3W7***
***CANADA***

***Я. Забалінскі***

# Беларусь за месяц

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СЬЦЯГІ Ў ГАДАВІНУ РЭФЭРЭНДУМУ

У ноч на 14-га траўня ў шэрагу гарадоў Беларусі зьявіліся бел-чырвона-белыя сьцягі. Гэткім чынам "Малады Фронт" скончыў акцыю "Беларусь у Эўропу", якая трывала некалькі месяцаў, а таксама адзначыў гадавіну сумнаведамага рэфэрэндума 1995-га году, які вярнуў бэсэсэраўскую сымболіку. У Менску былі вывешаныя 20 нацыянальных сьцягоў, а таксама сьцягоў Эўразьвязу. Сьцягі зьявіліся на будынку на скрыжаваньні праспэкта Скарыны й вуліцы Казлова, радыётэхнічнага каледжа па праспэкце Скарыны. На каледжы сьцяг вешалі двойчы, бо падчас першай спробы маладафронтаўцы былі затрыманыя міліцыяй. Праўда, хлопцаў неўзабаве адпусьцілі. Сьцяг быў вывешаны нават каля менскага спецпрыёмніка-размеркавальніка.

Такія-ж акцыі прайшлі ў іншых гарадох Беларусі. У Берасьці сьцяг быў узьняты на самым высокім у горадзе 20-павярховым будынку. У Магілёве сьцягі павесілі на будынках выканкаму Ленінскага раёну, на асьвятляльных мачтах стадыёну "Спартак". Акцыі прайшлі ў Віцебску, Гомелі, Горадні, Жодзіне, Маладэчне, Воршы.

## ЛАНЦУГ НЕАБЫЯКАВЫХ ЛЮДЗЕЙ

7-га траўня ў Менску прайшоў "Ланцуг неабыякавых людзей". Акцыя была зладжаная Аб'еднанай Грамадзянскай Партыяй і прысьвечаная трэцяй гадавіне зьнікненьня эксміністра ўнутраных справаў Беларусі Юрыя Захаранкі, які зьнік пры таямнічых абставінах увечары 7-га траўня 1999-га году па дарозе дахаты.

Блізу 70 чалавек сабраліся ў цэнтры сталіцы паблізу Кастрычніцкай плошчы. Яны трымалі ў руках ня толькі партрэты зьніклага Захаранкі, але й астатніх ведамых людзей: Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зьміцера Завадзкага. Міліцыя паводзіла сябе вельмі карэктна і нікога з удзельнікаў акцыі не затрымала. Такія-ж акцыі прайшлі ў Баранавічах, Берасьці, Віцебску, Гомелі, Наваполацку, Пінску, Пружанах і іншых гарадох.

А 17-га траўня быў зладжаны "Ланцуг неабыякавых людзей" у 50-я ўгодкі нараджэньня бізнэсоўца Анатоля Красоўскага, які зьнік у верасьні 1999-га году разам зь Віктарам Ганчаром.

## МУЛЯВІН ТРАПІЎ У КАТАСТРОФУ

Ведамы сьпявак, лідэр гурта "Песьняры" трапіў на Радаўніцу (14-га траўня) у аўтакатастрофу. Гэта адбылося на 25-кілямэтры шашы Заслаўе - Калодзішчы. Сьпявак вяртаўся на "Мэрсэдэсе-420" зь лецішча. Ён ня даў рады кіраваньню, і машына вылецела на ўзбочыну, некалькі разоў перакулілася і ўдарылася ў дрэва. Зь месца здарэньня Ўладзімера Мулявіна у цяжкім стане даставілі ў 2-гі клінічны шпіталь Менска, а затым перавялі ў НДІ траўматалёгіі й артапэдыі, дзе яму зрабілі апэрацыю на пазваночніку. Стан сьпевака цяжкі.

## У САЛІГОРСКУ І СЬВЕТЛАГОРСКУ ДЫЗЭНТЭРЫЯ

Пачалася дызэнтэрыя ў Салігорску. З 20-га па 24-га траўня ў мясцовы шпіталь зьвярнуліся па дапамогу 346 чалавек, зь іх - 303 дзеці. Палова зь іх была шпіталізаваная. Камісія Рэспубліканскага цэнтру гігіены й эпідэміялёгіі выявіла, што прычынай атручваньня была прадукцыя Салігорскага малаказаводу. Прычыны дызэнтэрыі могуць быць самыя розныя: ад парушэньня тэхналягічнага працэсу да брудных рук рабочых. Працу завода на некалькі дзён прыпынілі. Але гэта ня выратавала жыхароў Сьветлагорску, якія атруціліся прадукцыяй прадпрыемства. Напрыканцы траўня там на дызэнтэрыю захварэлі некалькі дзясяткаў чалавек. Хоць Салігорск далекавата знаходзіцца ад Сьветлагорску.

## АДАМА МАЛЬДЗІСА УШАНАВАЛІ ПРЭМІЯЙ

29-га траўня ў Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі адбылося ўручэньне прэміі імя Ганны Краснапёркі ведамаму беларускаму навукоўцу, доктару філялёгіі Адаму Мальдзісу. Музыказнаўца Вольга Дадзіёмава на ўручэньні прэміі адзначыла, што калі беларуская культура XVI-га стагодзьдзя зьвязаная зь імем Скарыны, то нацыянальная культура XX-га стагодзьдзя - зь імем Адама Мальдзіса. Пісьменьнік, між іншага, зрабіў два выдатных адкрыцьці для музычнай грамадзкасьці: "Полацкі сшытак" і творчасьць Станіслава Манюшкі.

Прэмія імя Ганны Краснапёркі была заснаваная ў 1998-м годзе. Падчас нямецкай акупацыі Ганна трапіла ў Менскае гета, скуль уцякла. Па вайне Ганна стала журналісткаю і ў 70-х напісала кнігу ўспамінаў "Лісты маёй памяці" пра нямецкую акупацыю і лёс вязьняў гета. Прэмія заснаваная на сродкі Ірмы Б'юзінг, муж якой загінуў улетку 1944-га году пад Менскам.

## ПОЛЬСКІХ БЕЛАРУСАЎ ПЕРАПІСАЛІ

З 21-га траўня па 8-га чэрвеня ў Польшчы праходзіў перапіс насельніцтва. Сярод пытаньняў было і пра нацыянальнасьць, такая ўмова Эўразьвязу, куды маецца ўступіць Польшча. Польскія беларусы кажуць, што перапіс не пакажа рэальных вынікаў, бо шмат хто зь беларусаў запішацца палякамі, бо атаясамляюць нацыянальнасьць з грамадзянствам.

## "СВАБОДА" ПА-РАСЕЙСКУ

21-га траўня выйшаў першы нумар адмысловага праекту газэты "Наша Свабода", пад назовам "Свабода. Политика". Праект мае выдавацца раз на тыдзень, па аўторках. Па-беларуску там толькі лягатып газэты. Нават слова "палітыка" і выходныя дадзеныя па-расейску. Кіраўнікі газэты тлумачыць гэта неабходнасьцю арыентацыі на расейскамоўную публіку. Між тым, за апошнія месяцы наклад "Нашай Свабоды" падае і цяпер складае 6830 асобнікаў. Праўда, зьніжэньне чытацкай аўдыторыі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў характэрнае для большасьці апазыцыйных выданьняў.

## СКОБЕЛЕЎ СУПРАЦЬ БЫКАВА

Галоўны рэдактар "Інфармацыйнага весніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" пісьменьнік Эдуард Скобелеў заявіў наступнае: "Сярод новай зьмены шмат сумленных людзей, імёны якіх замоўчвалі гэтыя гады. Менавіта ім трэба даць слова на старонках літаратурных часапісаў, а не палітычна адсталым Быкаву, Барадуліну, Гілевічу і Законьнікаву, якія ўжо нічога новага ня створаць. Зараз трэба садзейнічаць таму, каб іх творы не зьяўляліся на старонках літаратурна-мастацкіх выданьняў краіны. Бо ў апошні час ад літаратурнай творчасьці, у якой яны сябе згубілі, гэтыя пісьменьнікі й паэты перайшлі да палітычнай дзейнасьці, дзе яны нічога не разумеюць".

А вось новы галоўны рэдактар "Крыніцы" Вячаслаў Дашкевіч заявіў, што ідэі "Паўночна-Заходняга краю" на бачынах часапісу не пацерпіць, і "Крыніца" застанецца правадніком нацыянальнае ідэі.

Былы галоўны рэдактар "Полымя" Сяргей Законьнікаў мае намер выдаваць часопіс "Будзем!", а яшчэ адзін супрацоўнік "Полымя" Барыс Пятровіч (Сачанка) хоча заснаваць літаратурны часапіс "Дзеяслоў". Са Скобелевымі ім не па дарозе.

## МАЛАДЫ ФРОНТ ШЫБУЕ Ў ЭЎРОПУ

Маладзёвая беларуская арганізацыя Малады Фронт стала сябрам "Эўрапейскіх дэмакратычных студэнтаў" (ЭДС) - маладзёвай арганізацыі Эўрапейскага Зьвязу. Рашэньне аб гэтым прынятае 25-га траўня ў Кракаве (Польшча) на пасяджаньні Рады ЭДС. Цягам апошніх чатырох гадоў Малады Фронт быў у ЭДС назіральнікам.

## ДЗЕЦІ АТРУЦІЛІСЯ СНАТВОРНЫМ

У вёсцы Вярэйкі, што ў Ваўкавыскім раёне Гарадзеншчыны, школьнік знайшоў на шашы брунатныя таблеткі, вельмі падобныя да шакаляднага дражэ. Назьбіраўшы ў школьную сумку, прынёс іх у школу, дзе добра пачаставаў сябрукоў. 16 школьнікаў праз пэўны час адчулі сябе кепска і былі адвезеныя ў раённы шпіталь. Выявілася, што школьнікі атруціліся снатворным для жывёлы, якое рассыпалася з машыны, што ехала па дарозе. Камісія санэпідэмстанцыі наладзіла ў школе праверку, і ў некалькіх школьнікаў знайшла ў партфелях "шакалядкі". Снатворнае сканфіскавалі.

## "ДУРДОМ" У БАРАНАВІЧАХ

Як вядома ЮНЭСКА абвесьціла 2002-ы год годам Ігната Дамейкі. З гэтае нагоды Рада ТБМ Баранавічаў зьвярнулася ў гарвыканкам з прапановай надаць адной з гімназіяў імя славутага земляка. Гарвыканкам адмовіў, бо "у горадзе маецца дастаткова беларускамоўных клясаў і ў кожнай школе раз на год праводзіцца тыдзень беларускай мовы". У гарвыканкаме, відаць, ня ведаюць, што сусьветнаведамы навуковец Ігнат Дамейка жыў у 19-м стагодзьдзі й быў рэктарам унівэрсытэту ў Сант'яга (Чылі). Магчыма, блытаюць зь дзеячом нацыянальнага руху за часамі нямецкай акупацыі Міхасём Тулейкам. Дамейка - Тулейка, якая русыфікатарам розьніца.

## НА КРЫЧАЎШЧЫНЕ ЗНОЙДЗЕНЫ МЕТЭАРЫ

Жыхарка вёскі Чырвоная Буда Ганна Пруднікава знайшла ўвосень на ўласным гародзе мэтэарыт, камень велічынёю з курынае яйка і вагою амаль паўкілё. Гаспадыня ўлучыла чароўны камень у гаспадарку: забівала цьвікі, калола ім гарэхі. І толькі ў мінулым месяцы пляменьнік-школьнік пабачыў каштоўны камень і аднёс яго ў мясцовую школу.

## СЬВІСЛАЧ АЧЫСЬЦЯЦЬ

Узімку пачнецца першы этап ачысткі ракі Сьвіслач у межах Менска. Так вырашыла ўпраўленьне камунальнай гаспадаркі сталіцы. Праблема была ўзьнятая даўно, і нават быў заснаваны адмысловы фонд, куды гарадзкія прадпрыемствы адлічалі грошы. Апэрацыя будзе праводзіцца на працягу 22-х кілямэтраў у межах гораду. Сьвіслач самая забруджаная рака Беларусі.

## КДБ НЕ РАССАКРЭЦІЦЬ АРХІВАЎ

Старшыня Нацыянальнага цэнтру архіваў і справаводзтва Ўладзімер Адамушка на прэсканфэрэнцыі з нагоды 80-годзьдзя дзяржаўнай архіўнай службы Беларусі распавёў, што большасьць справаў, зьвязаных з савецкімі рэпрэсіямі, па-ранейшаму недаступныя і знаходзяцца ў ведамасным архіве КДБ. І няхутка яны будуць рассакрэчаныя, бо, згодна з заканадаўствам, тэрмін ведамаснага захоўваньня такіх справаў — 75 год

## ПРА БЕЛАРУСАЎ КІНО ЗДЫМАЦЬ НЯ БУДУЦЬ

ЮНЭСКА сумесна зь вядомым тэлеканалам "Discovery Channel" пачынае новы праект. Ягоная мэта — адкрыць грамадзкасьці вочы на праблему аховы культурнай спадчыны й моваў, што знаходзяцца на мяжы зьнікненьня.

Паводле статыстыкі ЮНЭСКА, у сьвеце існуе 3000 моваў, носьбітаў кожнай зь якіх менш за 10 тысячаў. З гэтых 3000 моваў на 750-ці гавораць менш за тысячу чалавек. Лічыцца, што мова знаходзіцца на мяжы зьнікненьня, калі ёю карыстаюцца менш за 30% дзяцей носьбітаў.

Тэлепраграмы, што будуць трансьлявацца ў 154 краінах сьвету, пазнаёмяць гледачоў з такімі мовамі й культурамі народаў, якія імі гавораць. Беларусаў, што размаўляюць пасвойму, намнога больш за дзесяць тысячаў чалавек, таму пра нас кіно здымаць ня будуць. Хоць колькасьць дзяцей, што вучацца ў беларускамоўных клясах, сёлета ўпала ніжэй за 30%.

## 900 ГАДОЎ СЬВ. ЕФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ

Да 5-га чэрвеня працягнецца ў Полацку сьвяткаваньне 900-годзьдзя з дня нараджэньня Сьвятой Ефрасіньні Полацкай.

Мерапрыемствы, прымеркаваныя да гэтай даты, пачаліся Кірыла-Мяфодзеўскімі чытаньнямі. Упершыню ў Спаса-Ефрасіньнеўскім манастыры пройдзе фэстываль звону. З 30-га па 31-га траўня ў Полацкім дзяржаўным унівэрсытэце працавала міжнародная канфэрэнцыя на тэму: "Прападобная Ефрасіньня Полацкая і пытаньні славянскай асьветы".

Апагеем сьвяткаваньняў стала спэцыяльнае набажэнства ў Сафійскім саборы 2-га чэрвеня. Па заканчэньні службы адбыўся хрэсны ход з Сафійскага сабору да Свята-Ефрасіньнеўскага манастыра. Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музэй-запаведнік падрыхтаваў да сьвята адмысловую выставу. У гонар Сьв. Ефрасіньні ў горадзе пройдзе некалькі канцэртаў духоўнай музыкі.

*Уласны карэспандэнт*

# ПАРАШУТЫСТКІ

**Звычайна з нагоды нацыянальных сьвятаў мы згадваем нашых герояў, пераважна мужчынаў. Так сталася, што ўдзел жанчынаў у беларускім вызвольным змаганьні мінулага стагодзьдзя недастаткова вывучаны. А яны-ж таксама, як і мужчыны, часта рызыкавалі жыцьцём, са зброяй у руках ваявалі супраць акупанта, праходзілі праз канцлягеры й турмы...**

У лістападзе 1944-га году ў Заходняй Беларусі зь нямецкага самалёту дэсантаваўся аддзел беларускіх парашутыстаў. У іх задачу ўваходзіла арганізацыя антысавецкага партызанскага руху. Сярод парашутыстаў былі й дзьве маладыя жанчыны - Тамара Чэрамшагіна і Вера Краскоўская, радысткі.

Вера Краскоўская разам са сваім мужам Філіпам Давідчыкам (яны пабраліся шлюбам незадоўга да адлёту на Бацькаўшчыну), які быў камандзірам групы дэсанту, былі затрыманыя чэкістамі 28-га лістапада 1944-га году ў Любчанскім раёне. Ёсьць сьведчаньні, што Вера на сьледстве трымалася мужна і, калі давядалася, што муж цалкам "раскалоўся", не захацела зь ім больш мець нічога агульнага... Тамара Чэрамшагіна пасьля дэсанту трапіла ў іншую групу, якая знаходзілася на Віленшчыне. Па адных зьвестках, чэкісты захапілі яе ў сярэдзіне сьнежня 1944-га, паводле іншых, шукалі яшчэ і ў 60-ыя гады...

У мінулым годзе разам зь сябрамі я паспрабаваў расшукаць сваякоў парашутыстак, каб праз іх даведацца пра лёсы Тамары й Веры. Нам пашанцавала. У Карэліцкім раёне ўдалося адшукаць сваякоў Веры Краскоўскай. Аказалася, што Вера жыве ў Расеі. У той-жа вечар зь ёю ўдалося пагаварыць па тэлефоне, а пасьля прыйшоў ліст. На жаль, Вера Мікалаеўна пазначыла, што "ліст не для друку". Таму коратка перакажу, што ёй давялося перажыць.





Сям'я Краскоўскіх паходзіць зь беларускай шляхты. Бацька Веры Мікалай Дзем'яновіч, нягледзячы на ўсе намаганьні ўладаў, так і не ўступіў у калгас. Брат Аўген, падафіцэр батальёна Барыса Рагулі, загінуў у красавіку 1944-га году ў сутычцы з савецкімі партызанамі. Падчас нямецкае акупацыі Вера вучылася ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, здымала кватэру разам з Тамарай Чэрамшагінай. У 1944-м годзе яна, 20-гадовая, адступіла на Захад, напэўна, пад уплывам будучага мужа Давідчыка. Пасьля разам зь ім трапіла ў дэсантны батальён "Дальвіц", яе й Тамару вучылі на радыстак. Пасьля арышту была адзіночка ў менскай амэрыканцы, прысуд - 8 гадоў канцлягераў і 3 гады "паражэньня ў правох". Працавала ў Сібіры на лесапавале... Там яна сустрэла свайго другога мужа, нарадзіла двух дзяцей. Раней Вера часта прыяжджала да сваякоў у Беларусь, але цяпер цяжка хварэе...

У Любчы яшчэ засталіся сваякі Тамары Чэрамшагінай, памятаюць яе і суседзі. Бацька Тамары Сяргей Пятровіч Чэрамшагін прыехаў у Любчу пасьля Першай Сусьветнай вайны, як кажуць людзі, з Расеі. Тут ён ажаніўся зь мясцовай дзяўчынай Кацярынай. У іх нарадзілася пяць дзяцей: чатыры дачкі й сын. Зь Любчы Тамара паехала вучыцца ў Наваградзкую настаўніцкую сэмінарыю ў 1942-м годзе. Летам 1944-га году пайшла на Захад разам з "рагулеўцам" Андрэем Вайтовічам. Пасьля быў "Дальвіц", дэсант, цяжкасьці падпольнага жыцьця...

У Любчы пра лёс Тамары ніхто ня ведае. Сваякі, нібыта, таксама. Яшчэ нядаўна ўжывых была толькі адна сястра Тамары Люся, жыла яна дзесьці ў Прыбалтыцы. У Латвіі калісьці жыла й сястра Зіна...

Дзе жыла Тамара, невядома. Але тое, што яна выжыла ў пасьляваенны партызанцы або ў канцлягерох - гэта факт. Аднойчы праз сваю сяброўку Маню Ясінскую перадавала вестку сябру. Паспрабавалі мы схапіцца за гэтую нітку, але спазьніліся - Ясінская ўжо памерла...

Пра тое, што ў 60-ыя гады Тамару шукала КГБ, мне распавядаў былы палітвязень Пётра Р. Прынамсі, у Гарадзеньскім упраўленьні КГБ у яго пра Тамару распытвалі чэкісты.

Чэрамшагіна і Краскоўская не былі адзінымі радысткамі ў "Дальвіцы", былі й іншыя. Адна цяпер жыве на Захадзе, мае ўжо іншае прозьвішча. Яна, параненая, здолела вярнуцца зь Беларусі ў Нямеччыну... Яшчэ адна парашутыстка зараз жыве ў Расеі. У рукі бальшавікоў яна трапіла ў 1947-м годзе, зараз шукае свайго брата, які згубіўся ў пасьляваенай Эўропе...

***Сяргей ЁРШ***

***На здымках:* *Вера Краскоўская ў зьняволеньні. 1950-ыя гг.;* *Тамара Чэрамшагіна і Андрэй Вайтовіч, Наваградак, 1942 г.;***

# БЕЛАРУСКАЯ ПАНАРАМА

## КНІГА ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЗАМЕЖНУЮ ЛІТАРАТУРУ

У выдавецтве Бірмінгэмскага ўнівэрсытэту выходзіць вялікая манаграфія літаратуразнаўцы праф. Арнольда Макміліна (Arnold McMillin) - "BELARUSIAN LITERATURE OF THE DIASPORA". Кніга разьдзеленая на тры часткі: беларуская эміграцыйная літаратура; беларуская літаратура ў сучаснай Усходняй Эўропе (за выняткам Польшчы); і беларуская літаратура ў Польшчы. У кнізе разглядаецца творчасьць 50 аўтараў.

Цана кнігі - прыблізна 25 фунтаў. Пры большай колькасьці заказаў даецца 20 працэнтаў зьніжкі. Заказы слаць на адрас:

The General Editor, Birmingham Slavonic Monographs, Department of Russian, The University of Birmingham, Edgbaston, Birmingham B 15 2TT.

## ПРАЦА ПРА МУЗЫКУ Й НАЦЫЯНАЛЬНУЮ СЬВЯДОМАСЬЦЬ

Доктарская дысэртацыя Марыі Паўліны Сурвіллы, выкладчыцы амэрыканскае ВНУ, загалоўленая "Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Constructing the Nation Through Belarusan Contemporary Music" /Пра русалкі й рокераў: вызначэньне сябе й будаваньне нацыі праз беларускую сучасную музыку/. Тэма, трэба прызнаць, няштодзённая й ня зь лёгкіх. Але маладая аўтарка справілася зь ёю бліскуча. Довад гэтага - выданьне ейнае працы ў сэрыі "Выдатныя дысэртацыі". Кніга (192 ст.) выйдзе ў ліпені сёлета разам з аўдыёварыянтам на кампактным дыску. Ужо цяпер можна замовіць кнігу ў фірме Амазон (Amazon.com).

## БЕЛАРУСКАЯ АКТОРКА Й ПАТРЫЁТКА ВІРДЖЫНІЯ ШЫМАНЕЦ

У красавіку сёлета праходзілі ў Францыі дні беларускай культуры, а ў Беларусі - дні культуры францускай. Французы прывезьлі ў Беларусь некалькі спэктакляў, у тым ліку "Чарнобыльскую малітву" паводле дакумэнтальнай аповесьці Сьвятланы Алексіевіч.

У складзе парыскае трупы прыехала й Віржыні Шыманец, якая паходзіць зь ведамай беларускай сям'і Шыманцоў. Французскія акторы выступалі ў Гомелі. Пра іхны выступ там менская "Белорусская деловая газета" (16.04.02) напісала: "Гомельскага гледача французскія акторы пацешылі таксама "Уяўнай камэдыяй" паводле твораў Мальера ды монаспэктаклем "Фані" паводле Л. Концi". У "Фані" (адзіным спэктаклі, які суправаджаўся перакладам) грала актрыса парыскага тэатру Віржыні Сіманьек *(гэта значыць, Шыманец - рэд. "Б")*. Яшчэ да адкрыцьця фэстывалю яна ўразіла гамяльчанаў сваёй прыгожай... беларускай гаворкай. Як высьвілася, бацька Віржыні родам са Стоўпцаў, адкуль яшчэ хлопчыкам разам з бацькамі прыехаў у Францыю ў часе Другой Сусьветнай вайны. Але роднае мовы ні дзед, ні бацька не забыліся. За іхным прыкладам пайшла й Віржыні. Больш таго, спадарыня Сіманьек як запраўдная патрыётка выдае ў Парыжы газэту *(фактычна, бюлетэнь - рэд. "Б")* "Беларускія пэрспэктывы". Гэтае выданьне на французскай мове для тых, каго цікавіць доля Беларусі', - сказала яна карэспандэнту "БДГ".

***Янка Запруднік***

## БАСКЕТБАЛІСТКА ЗЬ БЕЛАРУСІ

У вясновым баскетбольным сэзоне 2002-га году газэты паўночнай часткі штату Нью-Джэрзі – "Гудзон Дыспэтч", "Гэральд Ньюз", "Стар Леджэр" і інш. – ці раз адзначалі, што студэнтка ўнівэрсытэту Фэрлей Дыкенсон у горадзе Тынэк, Натальля Марчанка, выдатна гуляе ў баскетбола. Аднойчы было нават зазначана, што, як сказаў трэнер баскетбольнай каманды Фэрлей Дыкенсона, Натальля часта выводзіць каманду ў пераможцы.

І вось адночы журналіст газэты "Бэрген Рэкорд" Дж. П. Пэльцман зрабіў з Натальляй інтэрвію. Выявілася, што гуляе яна ў баскетбола даўнавата. Першы раз наведала ЗША ў 1999 годзе ў складзе баскетбольнай каманды Беларусі, а цяпер яна студэнтка па абмену. Дапытліваму, але ня вельмі падкаванаму ў палітычнай геаграфіі карэспандэнту хацелася ведаць, зь якое яна краіны – напэўна з Расеі – выказаў ён сваё меркаваньне. У гэтым мамэнце іхнае гутаркі Натальля кіўнула на сяброўку, амэрыканку польскага паходжаньня, каб тая гаварыла далей. А тая сказала яму такое: Натальля – беларуска, і яна ўжо стамілася тлумачыць вам, журналістам, дзе знаходзіцца Беларусь ды якая розьніца паміж Беларусьсю й Расеяй. Праўда, сказала сяброўка, Натальлі спачатку было цяжкавата тлумачыць, хто яна й адкуль, дзеля слабога веданьня ангельскае мовы, але цяпер яна моваю авалодала й добра даводзіць веды пра Беларусь англамоўным студэнтам.

***В.К.***

# Весткі й Паведамленьні

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net №6 (436)


# ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ ЭТНАЦЫДУ

На працягу апошніх сямі гадоў у Рэспубліцы Беларусь усталяваны прамаскоўскі ўнутраны акупацыйны рэжым і антыдэмакратычная дыктатура Лукашэнкі. Рэжым мэтадычна вынішчае ўсё беларускае. Галоўны ўдар нанесены па беларускай мове і па нацыянальнай сыстэме адукацыі.

На асноўныя ролі ў сыстэме дыктатарскай улады на Беларусі пастаўленыя асобы з антыбеларускай пазыцыяй, вызначаныя на бязьлітаснае вынішчэньне беларускай мовы і татальную русыфікацыю. На сёньняшні дзень у Беларусі засталіся адзінкі беларускіх садкоў, школаў і клясаў. Беларуская мова амаль цалкам выцесьненая з вышэйшых навучальных установаў. Паўсюдна ўведзеная чужая расейская мова ёсьць інструмэнтам паняволеньня маладых беларусаў, разбурэньня іхнае нацыянальнае тоеснасьці, адлучэньня ад найлепшых нацыянальных і сусьветных традыцыяў.

Беларуская мова як дзяржаўная незаконна ігнаруецца ў адміністрацыях, міністэрствах, ва ўстановах і на прадпрыемствах. Уся сыстэма справаводства вядзецца не па-беларуску. У структурах улады выракліся беларускай мовы, дэманстратыўна размаўляюць на мове іншай дзяржавы. Грамадзянам паўсюдна адмаўляюць у выдачы любых дакумэнтаў на дзяржаўнай беларускай мове. У краіне запанавала чужая, небеларуская інфармацыйная прастора. На радыё і тэлебачаньні да мінімуму скарочаная колькасьць беларускамоўных перадачаў. Усе палітычныя праграмы выходзяць выключна па-расейску. Пераважная большасьць газэтаў і часапісаў (у тым ліку й незалежных) выдаецца на расейскай мове. Рэкляма выраблецца не на мове карэннай нацыі. Кнігарні краіны запоўненыя нізкавартаснай літаратурай на расейскай мове.

Зьнішчэньне беларускай мовы й насаджэньне расейскай рэжым цынічна ажыцьцяўляе за грошы з падаткаў беларускіх грамадзянаў. Пры гэтым замоўчваюцца вынікі перапісу насельніцтва Беларусі 1999-га году, паводле якога 81,2% жыхароў краіны назвалі сябе беларусамі, а зь іх 85,6% прызналі роднаю моваю беларускую мову.

Прамаскоўскі рэжым стварыў у Беларусі спрыяльныя ўмовы для расейскай інфармацыйнай палітыкі, якая набыла рысы маштабнай інфармацыйнай вайны супраць беларускае нацыі.

Шкода, нанесеная Беларусі палітыкай татальнай русыфікацыі, можа быць параўнаная толькі з наступствамі Чарнобылю. Прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі сваёй антынацыянальнай палітыкай справакаваў дэмаграфічную катастрофу ў краіне: ад 1994-га году насельніцтва Беларусі зьменшылася на паўмільёна чалавек, значна скарацілася сярэдняя працягласьць жыцьця беларусаў, нараджальнасьць зьнізілася да ўзроўню ваенных часоў. Мільёны жыхароў краіны існуюць па-за рысай беднасьці.

Усё гэта сьведчыць, што прамаскоўскія палітычныя сілы, якія захапілі ўладу, вядуць унутры Беларусі прадуманую палітыку зьнішчэньня беларускае нацыі. Такая палітыка зьяўляецца палітыкай этнацыду, ёсьць асноўным парушэньнем правоў народу і правоў асобы.

Сытуацыя, якую стварыў у Беларусі рэжым унутранай акупацыі, сьведчыць пра тое, што культурнае існаваньне беларускай нацыі знаходзіцца ў небясьпецы.

Мы лічым неабходным зьвярнуцца да ўсёй краіны і да ўсіх беларусаў у сьвеце з заклікам абараніць беларускую мову.

Існуюць агульныя міжнародныя правілы сужыцьця ў грамадстве, якія абавязковыя для ўсіх людзей на зямлі. Не павінен чыніцца гвалт над чалавекам. Нельга дапускаць дзеяньняў, накіраваных на зьнішчэньне нацыі. Ніхто нікому ня дае права зачыняць пэрспэктыву разьвіцьця. Ад любой улады неабходна патрабаваць выкананьня гэтых правілаў.

Мы патрабуем ад рэжыму ва ўладзе ў Беларусі спыніць этнацыд і зьнішчэньне беларускай мовы.

Мы прапануем прадстаўнікам дыпляматычных місіяў, акрэдытаваных у Беларусі, і міжнародным арганізацыям у перапісцы з афіцыйнымі структурамі ў Беларусі і ў сваіх публічных выступах выкарыстоўваць дзяржаўную беларускую мову.

Мы зьвяртаемся да беларускіх грамадскіх і міжнародных арганізацыяў пашыраць у сьвеце інфармацыю пра маштабы этнакультурнай катастрофы, якая напаткала Беларусь у выніку імпэрскай агрэсіі Расеі.

*Арганізатары дэманстрацыі, сябры беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы*

# СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД У НЬЮ ЁРКУ

11-га траўня прайшоў справаздачна-выбарчы сход нью ёрскага аддзелу. Напачатку з кароткім паведамленьнем пра падзеі ў Беларусі выступіў старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка. Затым з кароткім словам да прысутных зьвярнуўся сп. Зянон Пазьняк. Ён адзначыў, што навіны зь Беларусі носяць драматычны характар. Апошнія падзеі ў дачыненьні да беларускіх літаратурных перыядычных выданьняў - "Полымя", "Маладосьці", "Крыніцы", "ЛіМу" ды іхных рэдакцыяў паказваюць, што нават Саветы не рабілі такога, што робіць цяпер рэжым Лукашэнкі. Разагнаныя апошнія творчыя калектывы, што ў межах варожай дзяржаўнай сістэмы імкнуліся спрыяць разьвіцьцю беларускага літаратурнага працэсу, беларускай культуры. Рэжым імкнецца давесьці людзям, што ніякай літаратуры няма, і праз тое перайсьці да замоўчваньня адметнай мовы й культуры, каб урэшце адмовіць існаваньне беларускага народу як адмысловай нацыянальна-палітычнай еднасьці. Дзеля гэтага і створаны нутраным распараджэньнем, цішком рэжымны так званы "голдынг". Ягоныя арганізатары й "начальнікі" выдатна ведаюць, што калі няма літаратуры, дык няма і мовы, няма культуры, а значыць - і будучыні для гэтага краю. Сьвет, на жаль, заняты цяпер блізкаўсходнім канфліктам, і спадзеву на ціск міжнароднай грамадкасьці на рэжым і ягоных маскоўскіх гаспадароў няшмат. Але беларусы па-за межамі Беларусі мусяць працягваць змаганьне, трэба актывізаваць працу на падтрымку Бацькаўшчыны.

Затым прысутныя абралі выбарчую камісыю ў складзе: сп.сп. С. Пятровіча (старшыня), А. Тальянскага (сакратар), М. Галіцына і Дз. Бондзіна для правядзеньня справаздачна-выбарчага сходу. Прайшла рэгістрацыя сяброў аддзелу, падчас якой былі ўпаўнаважаныя 46 выбарцаў. Былі абмеркаваныя працэдурныя пытаньні адносна выплаты сяброўскіх складак як умовы ўдзелу ў выбарах. Затым прысутныя выслухалі справаздачы старшыні В. Зайкі, сакратара В. Якімовіч, скарбніка В. Дворніка і старшыні рэвізыйнай камісіі А. Орса-Рамана, якая прапанавала для скарбніка абсалюторыюм "зь вялікай падзякай". Старшыні й сакратару вынесены абсалюторыюм "з падзякай".

На пасаду старшыні аддзелу былі прапанаваныя дзьве кандыдатуры: сп. Віталя Зайкі й сп. Валерага Дворніка. Сп. В. Зайка выступіў з праграмай, у якой выклаў асноўныя кірункі сваёй дзейнасьці й шляхі яе ўдасканаленьня. Сп. В. Дворнік у кароткім выступе заклікаў прысутных ахвяраваць свае сродкі на падтрымку Беларусі й зьняў сваю кандыдатуру на пасаду старшыні. Затым прайшло абмеркаваньне формы галасаваньня, большыня сходу выказалася за адкрытае галасаваньне. У выніку галасаваньня большасьцю, пры двух устрыманых, старшынём аддзелу быў пераабраны сп. Віталь Зайка.

У нанова сфармаваны склад управы аддзелу ўвайшлі сп.спн. Марат Клакоцкі (заступнік старшыні), Валя Якімовіч (сакратар), Валеры Дворнік (скарбнік), Ала Орса-Рамана, Францішак Бартуль, Ала Кузьміцкая, Алесь Міцкевіч (ганаровы старшыня), Юля Андрусышын, Зьміцер Левіт, Віктар Едзіновіч, Уладзімер Цяліца, Сяргей Пятровіч, Анатоль Тальянскі, Анатоль Колбун, Тацьцяна Красоўская. У склад рэвізійнай камісіі абраныя Францішак Бартуль (старшыня), Э. Рыжы, З. Левіт, Ю. Шкетава.

Напрыканцы сходу сп. Антон Шукелойць, старшыня Галоўнай Управы БАЗА, выказаў падзяку ўсім, хто працаваў і актыўна працуе на карысьць арганізацыі й беларускай справы.

Сп. А. Шукелойць заклікаў усіх, хто атрымаў палітычны прытулак у краіне з дапамогаю аддзелу, актыўней уключацца ў працу і памятаць, што адказнасьць за дапамогу вымагае намаганьняў наўзаем: адпаведнай палітычнай працы й грамадскай актыўнасьці.

Сп. Шукелойць выказаўся за актывізацыю справы набыцьця Беларускага Дому ў Мангэтане й прапанаваў аднавіць Арганізацыю Беларускае Моладзі.

Былі абмеркаваныя розныя пытаньні з жыцьця аддзелу.

*Віталь Зайка*

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| В. Буран | 30 | С. Куцко | 30 |
| А. Высоцкі | 30 | Т. Піліповіч | 30 |

**На БелПом:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| К. Верабей | 20 | А. Субота | 20 |
| М. Раецкі | 20 | С. Трыгубовіч | 20 |

Усе ўплаты ў аддзел дасылайце скарбніку аддзелу на адрас:
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

Ахвяраваньне на БелПом дасылайце на адрас:
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*

*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 9-га ЧЭРВЕНЯ 2002 ГОДУ Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ: 166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

*Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.*

# НАВАГРАДЗКАЯ ЛЭДЗІ МАКБЭТ

## Марта, першая і апошняя літоўская каралева

Для жанчыны гісторыя заўсёды адводзіла вялікую ролю ў жыцьці любога народа. І ня мае значэньня, пагаджаюцца з гэтым ці не прадстаўнікі так званага моцнага полу. Жанчына, у рэшце, і нараджае гэтых самых прадстаўнікоў. Хто яна - жанчына - зь яе радасьцямі й горам, зь яе марамі й паразамі? Хто яна - жанчына мінулага тысячагодзьдзя? Знакамітая і ня вельмі, моцная і слабая. Жанчына заўсёды застаецца жанчынаю. Кожная хоча быць прыгожаю, каханаю, шчасьліваю. У кожнай з нас ёсьць свая загадка, свая таямніца.

У гісторыі нашага народу шмат белых плямаў, якія яшчэ чакаюць дасьледчыкаў. Але, як гэта часьцяком бывае, гісторыкі й пісьменьнікі як зацікавіліся адной нейкай гістарычнай постацьцю, дык аніяк ад яе і адчапіцца ня могуць. Пакідаючы па-за ўвагай пры гэтым цэлыя шэрагі іншых імёнаў, якія заслугоўваюць нашай увагі значна больш, чым здаецца на першым часе.

Я хачу распавесьці пра Марту, жонку князя Міндоўга, першую і апошнюю літоўскую каралеву. Такім чынам, гісторыя пра Наваградзкую лэдзі Макбэт.

Хто яна такая, дакладна невядома. Невядома нават, якое ў яе было першае імя, бо відавочна, што імя Марта яна атрымала ўжо не ў дзяцінстве. Хто яна па паходжаньню, таксама невядома, відаць, у яе былі і славянскія, і балцкія карані. Нарадзілася будучая літоўская каралева недзе ў дваццатыя гады трынаццатага стагодзьдзя. Марта, маладая, прыгожая, амбітная жанчына, выходзіць замуж за старога, але ўладарнага Вісманта. Выходзячы за яго, яна ня мела намеру заставацца ўсяго толькі хатняй гаспадыняй, няхай сабе і такой багатай. Ёй хацелася ўлады ня толькі над сваімі чаляднікамі. Вісмант-жа адносіўся да сваёй маладой жонкі гэтак, як ён лічыў патрэбным: толькі як да жонкі, якая павінна займацца выключна хатнімі справамі. Безумоўна, такое становішча зусім не задавальняла Марту, яна маркоцілася, але пакуль што паправіць нічога не магла.

Як заўсёды, дапамог выпадак. Неяк Марта на княскім прыёме пазнаёмілася з маладым Наваградзкім князем Міндоўгам, які княжыў у Наваградку ўжо каля трынаццаці гадоў і пасьпеў паказаць сябе як таленавіты й сьмелы ўладар. Міндоўг быў сынам Рынгаўда, які княжыў у Кернаве, але быў па паходжаньню з роду полацкіх князёў. Яшчэ Рынгаўд і пачаў ствараць моцны палітычны цэнтар у Наваградку. Але найбольш узвысіў горад менавіта Міндоўг. Ён патрапляе ў Наваградак пасьля вялікае паразы ў бітве з крыжакамі ў сярэдзіне саракавых гадоў. Са Жмудзі прыйшлося ўцякаць у Наваградак, дзе Міндоўг прымае праваслаўе. Яму цесна толькі на абшарах Наваградскага княства і ён з дапамогаю сілы, бо інакш тады быць не магло, далучае да сваіх уладаньняў Ваўкавыск і Слонім, а таксама Гарадзенскае і Віленскае княствы. Але пачаліся непаразуменьні зь дзядзькам Выкантам. Міндоўг пасылае пад Смаленск забойцаў, каб яны й дзядзьку забілі, і ягоных сыноў Таўцівіла і Едзівіла, і выканалі гэта так, каб склалася ўражаньне: яго сваякі загінулі ў час бою ад варожага мяча. Але нехта папярэдзіў Выканта і ён з сынамі ўцёк да Данілы Галіцкага, які быў жанаты на дачцэ Выканта. Даніла Галіцкі й Выкант дамовіліся зь лівонцамі, жмудзінамі й яцьвягамі аб сумеснай барацьбе супраць Міндоўга. Але той хуценька прыняў каталіцтва і перацягнуў на свой бок лівонскі ордэн.

І вось такі спадарожнік жыцьця і патрэбен быў Марце: малады, сьмелы ды рызыкоўны. Відаць, і Марта яму падыходзіла, бо шмат у чым падобная на Міндоўга. Праўда, Міндоўг меў жонку і дзяцей, але для Марты гэта не магло быць вялікаю перашкодаю. У прыгожай галаве Марты плян склаўся амаль імгненна. Яна павінна пазбавіцца ад Вісманта і стаць жонкай Міндоўга. Тое, што трэба будзе некуды падзець і жонку Міндоўга, яе тады мала турбавала. Найперш патрэбна было зьнішчыць Вісманта.

Марта пусьціла ў ход усе свае жаночыя чары і Міндоўг быў спакушаны. Настаў час дзеля выкананьня задуманага. У той час Міндоўг быў саюзьнікам Вісманта. Яны павінны былі разам ісьці ў паход пад горад Цьвірамет, ваяваць супраць дзядзькі Міндоўга Выканта. І вось сонечным ранкам Вісмант разьвітваецца са сваёю маладою жонкаю Мартаю. Яго ня столькі турбуе паход, колькі становішча жонкі: ён пакідае яе цяжарнай. Наказаўшы шматлікім чаляднікам, каб берaглі маладую гаспадыню, Вісмант нарэшце выпраўляецца ў паход.

Пад Цьвіраметам войска Вісманта сустрэлася з войскам Міндоўга. У іх самыя лепшыя, самыя сяброўскія адносіны, але Вісманта нешта трывожыць. Прадчуваньне бяды не пакідае сэрца. І вось на стан, дзе разьмясьціўся Вісмант, прыскоквае на ўзмыленым кані адзін з ваяроў Вісманта. Ён падае гаспадару ліст ад Марты. Марта, пасьля звыклых прывітаньняў, паведамляе свайму мужу, што дзіця, якое яна носіць пад сэрцам, не яго. Бацька дзіцяці - Міндоўг. Безумоўна, Марта выдатна ведала свайго мужа, яе разьлік быў беспамылковы. Вісмант ледзь не захлынуўся ад лютасьці. Як, яго саюзьнік, яго сябра падманваў яго! Вісмант, мінаючы разгубленых целаахоўнікаў, якія гэтак і не пасьпелі нічога зразумець, ускоквае на каня і імчыць у самы гушчар бітвы. Праз некалькі імгненьняў ён падае на зямлю. З прабітае сьпіны тырчэў нечы меч. Паміж прыхільнікамі Вісманта папаўзьлі чуткі, што гэта Міндоўг падаслаў забойцаў, якія і нанесьлі здрадніцкі ўдар у сьпіну іх гаспадару.

Праз некаторы час на паляваньні пры таямнічых абставінах гінуць і два браты Вісманта: Эдзівіл і Спрудзэйн. Яны, відаць, здагадваліся, што сьмерць старэйшага брата была зусім невыпадковаю.

А ў сям'і Міндоўга таксама пачаліся нейкія таямнічыя здарэньні. Раптам моцна захварэла жонка. Яшчэ ўчора яна была здаровая, маладая жанчына, якая ні на што не скардзілася, а сёньня не змагла падняцца з ложка. Міндоўг загадаў выклікаць усіх лекараў, якіх змаглі знайсьці, але жонка памерла ў страшэнных пакутах. Войшалак, сын Міндоўга, не адыходзіў ад пасьцелі маці і зацята маўчаў. Хлопец, які пасьля стане не менш уладарным ды знакамітым князем, чым ягоны бацька, увесь час будзе люта ненавідзець сваю мачыху Марту.

Прайшло зусім няшмат часу і Марта паўнапраўнай гаспадыняй увайшла ў палац Міндоўга. Тут яе надзвычай непрыхільна сустрэлі яго дзеці. Але Марта не зьбіралася здаваць свае пазыцыі. Перамога павінна была быць толькі на яе баку. Войшалка выпраўляюць у Афон. Там ён павінен быў стаць манахам. Ягоную сястру тэрмінова аддаюць замуж за сына Данілы Галіцкага. Але Войшалак таксама не зьбіраецца падпарадкоўвацца нялюбай мачысе. Ён дабіраецца да Баўгарыі і вяртаецца назад. Патрэбна было перачакаць час. Ён будуе сабе манастыр каля Нёмана і жыве там да таго часу, пакуль ня стане Наваградзкім князем.

Але побач з Міндоўгам зараз няма дзяцей ад першай жонкі, і таму дзеці Марты, Рукліс і Рупэка, станавіліся адзінымі спадчыньнікамі. На гэта вельмі спадзявалася Марта.

Праз некалькі месяцаў пасьля шлюбу Міндоўг і Марта каранаваліся на каралеўскі трон. Яны сталі першымі й апошнімі літоўскімі каралём і каралеваю. Міндоўгу патрэбна была карона, каб здабыць прыхільнасьць нямецкіх рыцараў і атрымаць ад іх дапамогу ў барацьбе зь яцьвягамі й жмудзінамі. А для Марты гэта была вяршыня посьпеху. Яна будзе паўнапраўнай каралевай! Марта ўжо бачыла сябе ў шыкоўных строях на балях, якія яна і яе муж будуць ладзіць для суседзяў. Бачыла яна сябе і як галоўную дарадчыцу мужа. І, відаць, мела рацыю. Марта ад прыроды была нашмат разумнейшай, чым многія афіцыйныя дзяржаўныя дзеячы, якіх ёй даводзілася бачыць ці чуць. Марта была, безумоўна, і разумнай і дастаткова хітрай, шмат што яна магла пралічыць, шмат каго магла перамагчы пры дасягненьні сваіх плянаў. Пакуль што ёй шанцавала: чаго хацела, таго і дабівалася. І нават без асаблівых цяжкасьцяў. Яна зь лёгкасьцю распраўлялася са сваім былым мужам, зь непажаданымі жонкаю і дзецьмі свайго новага мужа. Яе баяліся пры двары, шмат яна мела недобразычліўцаў, але яны ў параўнаньні зь ёю былі значна слабейшымі, таму для Марты не ўяўлялі вялікае небясьпекі. Небясьпека чакала зусім з іншага боку. Марта, пры ўсіх яе выдатных прыродных дадзеных, не змагла перамагчы адну сваю суперніцу, а менавіта такую хітрую ды каварную даму, імя якой палітыка.

Настае 1260-ы год. Міндоўг нечакана адмаўляецца ад каталіцтва, вяртаецца ў язычніцтва і - гэта самы вялікі ўдар для Марты - адмаўляецца ад кароны. Зараз Міндоўг надумаў змагацца з крыжакамі і яму патрэбная была падтрымка з боку Данілы Галіцкага. Таму ён без развагаў і адмовіўся і ад кароны, і ад хрысьціянства. Дарэчы, Міндоўг за сваё жыцьцё некалькі разоў пераходзіў з адное веры ў іншую. Рабіў ён гэта не з рэлігійных прычынаў, а з прагматычных. Трэба ў дадзены момант быць праваслаўным - ён будзе праваслаўным, трэба каталіком - няма пытаньняў! І вось зараз Міндоўг зноў становіцца язычнікам.

Марта такой нечаканай паразы пераўжыць не магла. Усе яе мары, усе памкненьні абрынуліся ў адначасьсе. Ніколі больш ня будзе яна каралевай, а яе дзеці ня будуць наследаваць трон. Фактычна дзеля таго, каб яе сыны змаглі стаць каралямі, яна і задумвала ўсе гэтыя інтрыгі. І вось усё скончана. Яе Міндоўг, на якога яна гэтак спадзявалася, нанёс ёй удар у сьпіну. Рашучая, разумная, прадбачлівая Марта зараз проста разгубілася. Яна апынулася ў тупіку, зь якога ня бачыла выйсьця. Яна не магла, гэтак, як Міндоўг, зноў стаць язычніцай ды маліцца на ідалаў. Яна не магла падумаць пра заўтрашні дзень, калі яе ўжо не будуць называць каралевай. Марта ня ведала, што рабіць. Тут нельга было некага атруціць, аддаліць ці падаслаць забойцу. Нават калі-б яна атруціла Міндоўга, гэта не зьмяніла-б стану рэчаў. Міндоўг ужо адмовіўся ад кароны, а значыць, адмовілася і яна, Марта.

І моцная, уладарная Марта зламалася. Яна пачынае пацікуваць вар`яцець. Спачатку яна перастала спаць: ёй сьніліся розныя жудасьці і, каб ня бачыць іх, яна баялася заснуць. Потым ёй сталі мроіцца гэтыя жудасьці ўжо ня толькі ў час сну. Розныя пачвары чакалі яе па кутах велізарнага палаца. Марта, якая імкліва страчвала сваю яшчэ зусім нядаўнюю прыгажосьць, бегала па пакоях, расхрыстаная, з раскалмачанымі доўгімі валасамі, крычала і "выганяла" з кутоў здаяньў. Яна сама ўсё больш і больш нагадвала здань.

Міндоўг нават здагадацца не мог аб сапраўднай прычыне хваробы жонкі. Ён, як мог, стараўся ёй дапамагчы, гатовы быў кінуць усё сваё багацьце на тое, каб выратаваць каханую. Але выратаваць Марту ня мог ужо ніхто. У 1262-м годзе яна памерла. Памерла зусім вар`яткаю.

Перад сьмерцю яна пакінула мужу дзіўны тэстамэнт. У ім яна прасіла Міндоўга, каб узяў у жонкі пасьля яе сьмерці адну зь яе сёстраў. Сваім хворым розумам яна ўяўляла, што на яе месцы хутка апынецца чужая жанчына і стане крыўдзіць яе дзяцей, як яна некалі крыўдзіла дзяцей Міндоўга ад першае жонкі.

Просьба годная вар`яткі, але, на дзіва, Міндоўг выконвае гэтую просьбу. Ці ён сапраўды гэтак моцна кахаў Марту, што гатовы быў выканаць любую яе просьбу, ці і сам пачаў ужо страчваць розум побач з вар`яткаю-жонкаю. Ён пасылае ганца да сястры Марты, каб паведаміць ёй пра сьмерць Марты і запрасіць на пахаваньне. Сястра Марты была замужам за князем Нальшанскім Доўмантам. Яна прыяжджае і становіцца фактычна заложніцай Міндоўга. Пасьля пахаваньня дамоў яе не адпускаюць. Бедную жанчыну трымалі пад вартаю ў адным з пакояў. Яна павінна была выконваць ролю маці для дзяцей Марты. Такой ганьбы жанчына не чакала і, ня вытрымаўшы пакутаў, праз некалькі месяцаў памерла.

А дома яе чакаў муж, князь Доўмант. Пайсьці вайною на Міндоўга ён ня мог, надта слабое войска меў у параўнаньні з магутным Наваградскім уладаром. Доўмант кожны дзень чакаў, калі вернецца ягоная жонка з такога дзіўнага палону. Ён усё яшчэ спадзяваўся, што Міндоўг дойдзе да розуму і зразумее ўсю недарэчнасьць сваіх паводзінаў. Але час ішоў, палонніца не вярталася і аднойчы Доўмант даведаўся, што яна памерла.

Помста Доўманта была страшнаю. Ён зрабіў выгляд, што сам выправіў жонку ў госьці да сваяка. І што-ж зробіш, калі яна там памерла. Лёс няўмольны. Доўмант працягваў паводзіць сябе як найлепшы сябра Міндоўга. Сам прапанаваў таму дапамогу ў паходзе на бранскага князя Рамана. Міндоўг, які нічога не падазраваў, з ахвотаю згадзіўся. Яны пайшлі разам за Дняпро, але праз некалькі дзён Доўмант нечакана павярнуў назад і, ударыўшы з тылу ў войска Міндоўга, дагнаў самога князя і ўласнымі рукамі забіў яго самога і ягоных двух сыноў ад Марты.

Такім чынам, ад Марты не засталося нічога: ні каралеўскай кароны, ні сыноў, дзеля якіх яна і пайшла на ўсе гэтыя макбэтаўскія інтрыгі. Хто яна была - Марта: дзіця сваёй дзікай эпохі, калі забіць бацьку, брата дзеля дасягненьня нейкіх палітычных мэтаў не лічылася за грэх і за злачынства? Была яна бяздушнай інтрыганкай ці проста няшчаснай жанчынай, якая згубілася ў сваім часе? Гісторыя гэтага ня ведае, як ня ведала, відаць, і сама Марта.

Самыя значныя падзеі ў жыцьці Міндоўга адбыліся ў той час, калі побач зь ім была Марта. Ён толькі на год перажыў яе. Але, відаць, памёр ён не тады, калі яго забіў Доўмант, а ў той дзень, калі апошні раз заплюшчыла свае вочы яго каханая жонка Марта.

*Лілія Сазанавец*

# ПРА ДАМЕЙКУ НІ СЛОВА

*Працяг з бач. 1*

Далей апісваецца, як ляцелі. Але вось:

"Вальпараіс - даліна руж. Пальмы, эўкаліпты, тунэлі, віражы. Сустрэча з гарнізонам і ўскладанне вянкоў ля манумента нацыянальнага героя Чылі - Артура Прада.

Віляўдэльмэль - райская даліна. Сустрэчы з дэпутатамі, рабочымі медзеплавільнага завода і нафтапрыёмніка, якія працуюць на глыбіні 50 мэтраў пад вадой. Тут багацейшыя залежы руды, зь якой выплаўляюць медзь, золата, плаціну, серабро, нікель. Вечарам пазнаёміліся з выступленнямі самадзейных калектываў, з іх надзвычай каларытнымі танцамі, уборамі і песьнямі.

Рэвалюцыя працягваецца, але аб яе поўнай перамозе гаварыць яшчэ рана. Кампартыя налічвае ўсяго 117 тысяч чалавек. Падзеі ў Балівіі павінны завастрыць пільнасць чылійскіх рэвалюцыянераў. Аб гэтым пры сустрэчы з імі гаварыў Л. Карвалан. Вялікае невядомае - армія. Забойства генерала Шнейдара гаворыць аб тым, што рэакцыя стараецца зрабіць яе сваёй ударнай сілай.

На сьцяне палаца прэзідэнта надпіс: "Куба ўжо не самотная". Былі на прыёме ў Алькаледа Вальпараіса, які сустракаўся з Леніным.

4. IX. Учора за абедам сядзеў з нейкім генералам, які, даведаўшыся, што я зь Беларусі, пачаў прыпамінаць нашы гарады. Ён, здаецца, у ваеннай школе выкладае геаграфію.

У парку імя Леніна пасадзілі малыя ёлачкі, пальмы.

5. IX. Былі на адкрыцці сельскай школы, пабудаванай парламентарамі-камуністамі.

6. IX. ...прыляцелі ў Канцэпсіон на сустрэчу з рабочымі сталеліцейнага заводу, на якім працуе каля шасьці тысяч рабочых. Тут самыя багатыя на свеце запасы руды, з самым высокім працэнтам жалеза.

5. IX. Вяртаемся ў Сант'яга. У пяць гадзін прыём у прэзідэнта Альенды. Сустрэў ён нас у сваім палацы. Пачалася цікавая бяседа: "Я хацеў Вас запрасіць да сябе... Не зважаючы на ўсе перашкоды мы ідзём наперад. Нацыянальны даход вырас на 7%... Нашы непрыяцелі думалі нас ізаляваць. Мы прарвалі гэтую ізаляцыю... Кожны народ мае права мець урад, які хоча мець. Мы адчуваем пагрозу з боку імперыялістаў. І мы ведаем, што нас чакае самы цяжкі час, бо сілы апазіцыі аб'ядналіся. Але мы за імі сочым. Паглядзім, як будзе далей... Мы прыйшлі да ўлады законным шляхам... Народ нас падтрымлівае, аб чым гаворыць праведзены гэтымі днямі мітынг на аэрадроме, аб якім вы, напэўна, чулі. Перажываем пераходны перыяд, які паможа нам выйсьці на шлях сацыялістычнага будаўніцтва..."

Максім Танк нідзе не ўзгадвае пра Ігната Дамейку, пра якога, пэўне, гутаркі былі. Гэты наш слаўны суродзіч, роджаны ў маёнтку Нядзьведка ў Навагрудчыне ў 1802-м годзе, магчыма й быў прычынай таго, што Танкавы натхніцелі выслалі менавіта яго, у той час старшыню Вярхоўнага Савету БССР, на помач камуністу Альенду і ягонай рэвалюцыі ў Чылі.

Вось што чытаем у "БелСЭ", Мн. т. 4, бач. 131: "Дамейка Ігнат... геолаг, даследчык Чылі. Скончыў Віленскі ўніверсітэт, быў пад арыштам як член гуртка Філаматаў. Удзельнік паўстаньня 1830-31 г.г. у Польшчы і на Беларусі, пасьля яго разгрому інтэрніраваны прускімі ўладамі. Скончыў горную школу ў Парыжы (1837 год), з 1838 году прафесар мінералогіі ў Какімба і Сант'яга (Чылі). Арганізаваў шырокае вывучэньне геалогіі і мінералогіі Андаў Чылі, пустыні Атакама, Араўканіі, заснаваў метэаралогію ў Чылі, стварыў этнаграфічны музей. У 1884 годзе наведаў радзіму. Памёр 23.1.1889 году ў Сант'яга. Навуковыя працы Д. Надрукаваны ў 5 тамах. Яго імем названы мінерал дамейкіт, выкапнёвы сьлімак Nautilus Dameycus, фіялка Viola Domeykiana, аманіт чылійскі Amonites Domeykanus, рабочы пасёлак на Поўначы Чылі, хрыбет у Андах.

Літ.: Грицкевич В. П. Путешествия наших земляков. Мн. 1968, ст. 96 - 119.

Альендавы "рэвалюцыянеры", агітаваныя цемрашаламі з "імпэрыі зла", неўзабаве загналі эканоміку Чылі ў тупік. Масавыя дэманстрацыі ў краіне спрычыніліся да зьмены ўлады. Пінача, які пераняў уладу гвалтоўнай сілай арміі, падтрымала бальшыня нацыі, гаспадарка краіны скора паправілася. Камуністы рабілі сусьветнагудкі вэрхал, што дыктатар Пінача іх вязьнічыць, вынішчае...

І ў Канадзе зьявіліся Альендавы "рэвалюцыянеры", грамада розных паўдзённа-амэрыканскіх імігрантаў у нас вырасла.

Памятаю, у гэны час атрымаў я запросіны ад найстарэйшай таронцкай газэты "Глоб энд мэйл" сустрэцца зь іхным карэспандэнтам. Ідэя: паінфармаваць яго пра дыктатара ці рэпрэсіі ў маёй бацькаўшчыне Беларусі.

Сустрэча адбылася, трывала дзьве гадзіны. У часапісе газэты, што выдаваўся раз на тыдзень у сыботу, галоўная ўвага прысьвячалася Пінача й іншым дыктатарам з трэцяга сьвету. Пра Беларусь з таго абшырнага інтэрвію - ані слова.

Гэтак вось "вольная" канадыйская дый іншая прэса заходніх дзяржаваў тады плялася дый цяпер яшчэ крочыць левымі палітычнымі сьцежкамі.

***К. Акула***

***Сёлета ў ліпені спаўняецца 200 гадоў зь дня нараджэньня нашага славутага земляка Ігната Дамейкі.***

# "ВЫБРАНЫЯ ПРАЦЫ" ВАЦЛАВА ПАНУЦЭВІЧА

За няпоўныя тры гады ў "Бібліятэчцы "Беларускага гістарычнага агляду" выйшла 9 кнігаў, сярод якіх такія ўнікальныя, як "Спробы стварэньня беларускага войска" Франца Кушаля, "Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі" Сымона Кандыбовіча, "Беларуская кніга пад нямецкім кантролем: 1939-1944" Юрыя Туронка, "Хроніка беларускага жыцьця на чужыне: 1945-1984" Міколы Панькова, "Выбраныя працы" Вітаўта Тумаша.

Цяпер рэдакцыя БГА прыступае да падрыхтоўкі выданьня "Выбраных працаў" эміграцыйнага гісторыка Вацлава Пануцэвіча.

Вацлаў Пануцэвіч (Папуцэвіч) – дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху 30-х. Быў прыхільнікам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, потым рэдагаваў газэту "Беларускі фронт", заснаваную ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім. За сваю дзейнасьць Пануцэвіч неаднакроць перасьледаваўся польскімі ўладамі. Падчас нямецкай акупацыі браў удзел у беларускім нацыянальным руху.

З 1944-м годзе на эміграцыі. Жыў у лягерах ДП у Нямеччыне, дзе займаўся арганізацыяй беларускага скаўтынгу. З канца 40-х Пануцэвіч пераяжджае ў ЗША (Чыкага). Браў удзел у грамадзкакультурніцкім руху. Па словах Вітаўта Кіпеля, належыў да невялічкай колькасьці тых, хто імкнуўся арганізаваць беларускі каталіцкі рух у ЗША.

Ягоная творчая спадчына багатая. В. Пануцэвіч апрацоўваў і выдаваў казкі, чытанкі, пераклаў на беларускую мову "Падарожжа Гулівера ў краіну Волатаў" Дж. Суіфта, напісаў некалькі кніжак па беларускім скаўтынгу. Але асноўны ягоны ўнёсак – гэта кнігі па гісторыі Беларусі. Гэта "Крывіцкая этнаграфічная прастора", "Зь гісторыі вышэйшых школ у Беларусі. 1. Віленская акадэмія", "Пачаткі хрысьціянства на нашых землях", "Плян Агінскага 1811 г.", "Сьв. Афрасіньня Полацкая", "З гісторыі Беларусі альбо Крывіччыны — Літвы", "Вінцэсь Гадлеўскі...", "Літва і Беларусь", "Берасьцейская вунія", "Сьвяты Язафат Кунцэвіч", "Паўстаньне 1863 на Беларусі" і інш. Большасьць кнігаў выйшлі мізэрнымі накладамі, і як на эміграцыі, так і ў Беларусі зьяўляюцца рарытэтам..

Большасьць працаў аб'ёмныя і патрабуюць асобнага перавыданьня. Аднак Вацлаў Пануцэвіч пакрысе вяртаецца ў Беларусь. У 1993 г. у "Спадчыне" у скарочаным выглядзе друкавалася ягоная праца "Вінцэсь Гадлеўскі – дзяржаўны муж і правадыр народу". Добрую справу зрабіла ўніяцкае выдавецтва ў Полацку, передрукаваўшы ў мінулым годзе ягоную працу "Сьвяты Язафат".

Безумоўна, у адзін том нельга ўмясьціць і палову пазасталых гістарычных твораў В. Пануцэвіча. Таму рэдакцыя "Бібліятэчкі Беларускага гістарычнага агляду" вырашыла перавыдаць кнігу рэлігійныя творы: "Сьв. Афрасіньня Полацкая", "Берасьцейская вунія", а таксама выдаць раней не друкаваны рукапіс "Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква".

На выданьне "Выбраных працаў" бракуе грошаў, таму "Бібліятэчка БГА" просіць дапамагчы ў выданьні кнігі. Усе ахвярадаўцы будуць згаданыя ў кнізе, і кожнаму па выданьні будзе прэзэнтаваны асобнік "Выбраных працаў".

У Чыкага яшчэ жывуць людзі, якія добра ведалі гэтага гісторыка. Рэдакцыя "Бібліятэчкі БГА" заклікае іх дапамагчы ўспамінамі, ліставаньнем і фотаздымкамі, што тычаць Вацлава Пануцэвіча. Успаміны, лісты, ілюстрацыі будуць зьмешчаныя ў кнізе.

Калі ласка, дасылайце свае ахвяры, успаміны, ліставаньне, фотаздымкі на адрас:

***Liavon Yurevich***
***204 Ave N***
***Brooklyn, NY 11230***
***Рэдакцыя "Бібліятэчкі БГА"***

# НОВАЯ КНІГА




У канцы красавіка пабачыла сьвет кніга **Вітаўт Тумаш. Выбраныя працы.** Менск, 2002 (Б-ка "Беларускага гістарычнага агляду". Каардынатар сэрыі Генадзь Сагановіч).

ЗЬМЕСТ:

*Вітаўт Кіпель.* Пра настаўніка, супрацоўніка, прыяцеля.

*Раіса Жук–Грышкевіч.* Мае ўспаміны пра доктара Вітаўта Тумаша.

*Асноўныя навуковыя публікацыі Вітаўта Тумаша.*

Балцкі элемент пры паўстаньні сучаснага беларускага народу.

Да справы беларускай паўдзённай этнографічнай мяжы.

Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі.

Гістарычная канцэпцыя Вацлава Ластоўскага ў працах сучасных гісторыкаў.

Спрэчка пра дакумэнты, якіх ніколі ня было.

Тры выданьні Трэцяга Сатуту Вялікага Княства Літоўскага.

Яўхім Карскі: жыцьцё, навуковая спадчына, пагляды (1861-1931).

Жадаючыя замовіць гэтую кнігу дасылайце замовы на адрас:

**Marat Klakotski**
**5 West Court**
**Amityville, NY 11701**
***Кошт аднаго асобніка $7 разам зь перасылкаю.***

# ПАДПІСКА

**на беларускія газэты на другую палову 2002-га году**
**з дасылкаю зь Беларусі ў замежжа**

| *Назва выданьня* | *Перыядыч. друку* | *Кошт падпіскі, $* |
|---|---|---|
| **Наша Ніва** | 1 на тыдзень | **60** |
| **Наша Слова** | 1 на тыдзень | **25** |
| **Наша Свабода** | 2 на тыдзень | **60** |

**Для жыхароў Беларусі**

| *Назва выданьня* | *Перыядыч. друку* | *Кошт падпіскі, $* |
|---|---|---|
| **Наша Ніва** | 1 на тыдзень | **10** |
| **Наша Слова** | 1 на тыдзень | **5** |
| **Народная Воля** | 5 на тыдзень | **15** |
| **Наша Свабода** | 2 на тыдзень | **10** |

***Падпіска працягнецца да 18-га чэрвеня 2002-га году.***
*Замовы й аплату дасылайце, калі ласка, на адрас:*
***Marat Klakotski***
***5 West Court***
***Amityville, NY 11701***

# БЕЛАРУСКІ ПЕРАКЛАД БІБЛІІ ВЫДАДЗЕНЫ Ў МЕНСКУ

Пасьля гадоў чаканьня беларусы на Бацькаўшчыне і замяжою нарэшце атрымаюць друкаваны пераклад на беларускую мову Старога і Новага Запаветаў. Пераклад зроблены ведамым пісьменьнікам і лінгвістам Васілём Сёмухам і выдадзены сёлета ў траўні ў Менску. Надзвычайную працу ў падрыхтоўцы перакладу да друку зрабілі Мітрапаліт Мікалай Беларускай Праваслаўнай Царквы ды Юрка Рапэцкі, місыянэр Global Missionary Ministries (Канада).

Шмат хто зь беларускай эміграцыі адгукнуўся і дапамог выданьню фінансава. Найшчырэйная падзяка ўсім за дапамогу, асабліва:

**Спадарыні Але Орса-Романо з О. Р. Культурна-Адукацыйнай Фундацыі;**

**Спадарству Веры й Анатолю Пранцэвічам;**

**Спадарству Натальлі й Алексу Вакулічам.**

Кожны тыдзень я атрымлівала лісты па электроннай пошце ад людзей з усіх кантынентаў, хто знайшоў пераклад у сусьветным сеціве на старонцы Беларускай Палічкі www.knihi.com. Андрусь Жвір, гаспадар Палічкі, прыклаў шмат намаганьняў, каб пераклад Бібліі быў даступны для чытаньня, захаваньня і прыватнага карыстаньня. Факт, што беларускі пераклад Бібліі вось ужо які месяц трывала займае першае месца ў рэйтынгу папулярнасьці сярод усіх публікацыяў Палічкі гаворыць за тое, што выданьне яго кнігай - справа неабходнасьці.

Варта было-б напісаць асобна пра ўсіх, хто паспрыяў справе выданьня. Але зараз я-б хацела адзначыць аднога ахвярадаўцу, якога ўжо няма сярод нас, але які перад сваёю сьмерцю ў 1993-м годзе марыў пабачыць Біблію на беларускай мове і пакінуў сродкі на выданьне ў сваім Тэстамэньце.

Гарасім Сахар жыў і памёр у Кэйп Корал у Флярыдзе ў верасьні 1993-га году. Нарадзіўся ён у Стоўпцах у сакавіку 1916-га году ў сям'і Яна і Ганны Фёдаровіч Сахар. У 1945-м Гарасім Сахар скончыў Горн Сэмынарыю (Horn Seminary) у нямецкім Гамбургу і на працягу чатырох гадоў пасьля Другой Сусьветнай вайны прапаведваў у лягеры для перамешчаных асобаў па-беларуску, польску, расейску і нямецку. У 1950-м з дапамогаю Сусьветнага Саюзу Баптыстаў (World Baptist Alliance) яго сям'я здолела іміграваць у Нью Ёрк. Наступныя 27 з паловаю гадоў, аж да самае пэнсіі, ён адпрацаваў у Zurn Manufacturing Co.

Спадар Сахар таксама займаўся фармэрствам і пашырэньнем Слова Божага. Ён быў сябрам і скарбнікам Беларускага Евангелічнага Баптыскага Брацтва. Пасьля выхаду на пэнсію, спадар Сахар прысьвяціў сябе друку і распаўсюджваньню беларускіх кнігаў песень і Бібліі.

У сваім тэстамэньце, спадар Сахар прасіў каб яго нашчадкі ахвяравалі грошы Беларускаму Евангелічнаму Баптысцкаму Брацтву дзеля выданьня беларускіх кніг песень і Бібліі і распаўсюджаньня іх у Беларусі.

Выконваючы гэты запавет, са мной скантактаваўся сын спадара Сахара, Пол Сахар, які жыве ў Пэнсыльваніі. Ён папрасіў перадаць асобнікі Бібліі хрысьціянскім цэрквам у родным мястэчку бацькі, Стоўпцах.

Пасьля сьмерці Гарасім Сахар пакінуў па сабе трох сыноў, Джона, Пола і Даніэля, дачку Ганну Марыю, брата, двух сясьцёр і сямёра ўнукаў. Дадам, што спадар Сахар таксама пакінуў добрую памяць і ўдзячнасьць тых, хто дзякуючы ягонай шчодрай ахвяры зможа мець Біблію па-беларуску.

Дзякуючы намаганьням майго брата Сяргея Сёмухі Біблія надрукаваная і прыбудзе ў Нью-Ёрк на пачатку ліпеня. Усе ахвярадаўцы атрымаюць асобнік Бібліі бясплатна. Зацікаўленыя ў набыцьці асобніка, калі ласка, зьвяртайцеся да мяне па электроннай пошце **asemukha@yahoo.com** або па адрасе:

**Alesya Semukha**
**430 78th Street apt. 1A**
**Brooklyn, NY 11209**

*Алеся Сёмуха*



***ВІНШУЕМ з 75-мі ўгодкамі жыцьця***
***Др. ВІТАЎТА КІПЕЛЯ,***
*старшыню Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,*
*і **спадарыню ЗОРУ КІПЕЛЬ*** - шматгадовых працаўнікоў на беларускай ніве, аўтараў многіх беларусаведных публікацыяў і актыўных прадстаўнікоў беларусаведы на шматлікіх міжнародных канфэрэнцыях, самаахвярных беларускіх патрыётаў, шчодрых падтрымвальнікаў беларускай справы, узорных бацькоў і дзядоў - самыя шчырыя пажаданьні добрага здароўя, далейшага плёну і ўсякае памысьнасьці.

*Ад сяброў і супрацоўнікаў*

**Чарговая 25-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбудзецца 31-га жніўня – 2-га верасьня 2002-га году**
**ў Гайлянд Парку, штат Нью Джэрзі.** ***Сачыце за інфармацыяй.***

*Арганізацыйны камітэт.*

**ВІНШУЕМ з 85-мі ўгодкамі жыцьця**
***Найпачасьнейшага* Мітрапаліта Мікалая**
***Першаярарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне***

Высокадастойны Ўладыка, ушаноўваючы Ваш каштоўны ўклад у беларускае рэлігійнае й нацыянальнае жыцьцё, цэнячы багатыя вынікі Вашае перакладніцкае й выдавецкае дзейнасьці, Вашу самаахвярнасьць на карысьць нацыянальна-рэлігійнага адраджэньня, выказваем Вам за ўсё гэта найшчырэйшую падзяку, жадаем моцнага здароўя, вытрывальсьці й далейшага служэньня Сьвятой Беларусі, якой Вы ахвяравалі багаты плён сваёй працы.

*Кансысторыя й вернікі БАПЦ*

**БЕЛАРУСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**
**Сьв. Еўфрасіньні Полацкай** у Саўт Рывэр, Н. ДЖ. запрашае Вас, Вашую сям'ю і Вашых знаёмых на 4-ы
**"БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ - 2002"**
**у суботу, 15-га чэрвеня 2002-га году**
Прыходзьце на смачныя стравы. Будуць гучаць беларускія мэлёдыі й прадавацца сувэніры.
***Для інфармацыі наконт фэстывалю звaніце ў Беларускі Грамадзкі Цэнтар* (732) 613-7171.**

**Паважаныя чытачы!**
**Калі Вы яшчэ не падпісаліся на нашую газэту, то, калі ласка, зрабіце гэта неадкладна, бо з-за абмежаваных фінансавых магчымасьцяў мы ня ў стане дасылаць яе тым асобам, хто не аформіў падпіску.**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ю. Кіпель | 280 | Я. Крэсла | 30 |
| Я. Арцюх | 120 | С. Куцко | 30 |
| Л. Стагановіч | 100 | М. Латушкін | 30 |
| А. Брушкевіч | 50 | А. Маркевіч | 30 |
| Т. Кананчук | 50 | В. Міцкевіч | 30 |
| Ж. Наумчык | 40 | С. Пятровіч | 30 |
| В. Буран | 30 | С. Трыгубовіч | 30 |
| А. Высоцкі | 30 | В. Цярпіцкі | 30 |
| Б. Данілюк | 30 | Я. Юхнавец | 30 |
| Н. Кіт | 30 | Т. і П. Грыгальчык | 20 |
| Т. Красоўская | 30 | А. Садоўскі (аўстр. дал.) | 50 |

**У памяць маці В. Тура:**

**Ю. Кіпель 100**

**Ад Р. Шайпака з Аўстраліі (аўстр. дал.)**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Р. Шайпак | 100 | Лашук | 50 |
| П. Гуз | 50 | Ж. Сідляревіч | 50 |
| Кадняк | 50 | Яцкевіч | 50 |
| В. Каралюк | 50 | | |

*Усім шчыры дзякуй!*

# *Газэта "Беларус"*

***надрукуе бясплатна кароткія прыватныя аб'явы некамерцыйнага характару. Таксама зьмесьцім вашыя віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды іншыя абвесткі. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
***Выдае штомесячна:***
***БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е***
***Падпіска $30 на год.***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
***Published monthly by***
***BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***
***Subscription $30 yearly***
***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***
*Тэхнічны рэдактар*
***Мікола Шыдлоўскі***
*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*
***Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***
**© BIELARUS, 2002**
**Адрас для допісаў:**
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org
***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***